№ 2-3 [29-30] Люты-Сакавік 1950 г.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

З ВЕДАЙ, ВЕРАЙ, НАДЗЕЯЙ І ЛЮ- БОЎЮ ДА ЛЕПШАЕ БУДУЧЫ- НІ.

Часапіс Беларускае рэлігійнае думкі.

«SUR LA VOIE DIVINE». Mensuel religieux biélorussien.

| Цана нумару 40 фр. | Адрэс рэдакцыі: Adresse : Redaction, 51, rue des S-ts Pères, Paris (6). Chèque Postal : Paris c. 628744. | Падпісная цана на год 350 фр. |
|---|---|---|


# У ШЭРЫЯ БУДНІ

Падобна, як пыл можа прысыпаць кожную рэч, так шэрая будзёншчына можа пакрыць кожную ідэю і кожную зьяву сваім нябачным пылам забыцьця. У кожнай галіне людзкога жыцьця пыл будзёншчыны ня мінае нічога, каб ня прысыпаць яго штодзенна трубеючым пластам. Гэтую зьяву можна назіраць на кожным кроку грамадзкага і нават рэлігійнага жыцьця.

Аднак жывы людзкі дух ніколі ня мірыцца з пылам будзёншчыны і вядзе з ім заўзятае змаганьне.

У доме, дзе гаспадарыць дбайлівая рука гаспадыні з кожнага закутка выціраецца штодзенна пыл і кожная рэч у такім доме зьзяе сьвежасьцю.

У грамадзкім жыцьці розныя ўгодкі і юбілеі ды ўрачыстасьці даюць нагоду аднавіць тыя вялікія ідэі, якімі кіруецца грамадзтва ў сваім жыцьці. Якраз цяпер беларуская эміграцыя, як можа і дзе можа, урачыста азначае трыцацьдругія ўгодкі векапомнага акту 25-га сакавіка; угодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі. Урачыстасьці, якія ладзяцца з нагоды гэтых угодкаў, ёсьць добраю нагодаю сьцерці той пыл, які падчас будзённых заняткаў лажыцца ў памяці на гэты сьветлы акт. Нават сьціплыя акадэміі з нагоды 25-га сакавіка могуць аднавіць у памяці ўдзельнікаў важнасьць і значэньне акту абвешчаньня незалежнасьці Беларусі; даць штуршок да гуртаваньня беларускае эміграцыі ў рады змагароў за вызваленьне бацькаўшчыны, прыспорыць стараньні для ажыцьцяўленьня даўно абвешчанае незалежнасьці. Бо дзеля гэтага змаганьня новая беларуская эміграцыя пакінула сваю бацькаўшчыну, згадзілася прыняць усе нявыгоды бежанскага жыцьця і сланяцца на чужыне, але адначасна рабіць усё магчымае, каб прычыніцца да хутчэйшага вызваленьня роднага краю.

У рэлігійным жыцьці пыл будзёншчыны такжа не абмінае нічога, каб ня прысыпаць яго якім небудзь спосабам. Найбольш небясьпечнай формай гэтага «пылу» ёсьць абыякавасьць. Яна часам можа такім грубым пластам прыкрыць рэлігійнае жыцьцё чалавека, што потым вельмі цяжка яго аднавіць.

Здаецца, што з усіх хваробаў нашага веку, найстрашнейшым зьявішчам ёсьць абыякавасьць у рэлігійным жыцьці. Такі чалавек нібы рахуецца вернікам, а ў практыцы нічога ня выконвае з таго, што наказана вераю. Неаднойчы гэты сумны факт можна было пачуць нават з вуснаў сучаснага Сьвяцейшага Айца. Каб пераканацца аб тым, як шырока распаўсюджана гэтае пагубнае зьявішча, ня трэба хадзіць далёка за прыкладамі. Варта толькі, каб чытач затрымаўся на мамэнт у гэтым мейсцы ды спытаў самога сябе: «Ці я выконваю свае штодзенныя абавязкі так, як гэта павінен рабіць хрысьціянін?», «Колькі разоў у дзень, перш чым нешта зрабіць, ці сказаць, я сябе пытаю: «Што Хрыстос зрабіў-бы, ці сказаў на маім мейсцы?» Праўдападобна мала знойдзецца такіх, якія на падобныя пытаньні змогуць адказаць: «Я так часта раблю». А між тым мы мусім заўсёды так рабіць.

Праўда, ў такіх выпадках мы — людзі — заўсёды выпраўдваемся людзкою слабасьцю. Бясспрэчна наша слабасьць ёсьць фактам, з якім трэба лічыцца, але ведаем аб гэтым ня толькі мы, аб гэтым яшчэ лепш ведае Бог і таму не пакінуў

нас без дапамогі. З Ягонае волі Хрыстова Сьвятая Царква мае шмат розных спосабаў, каб супрацьдзейнічаць слабасьці, ажывіць веру ў чалавека, адсьвяжыць у памяці рэлігійныя ідэі. Такімі спосабамі і сродкамі ёсьць: добрыя прыклады, сьвяты, урачыстасьці, багаслужэньні, розныя абрады і інш.

Найбольш пацягаючым прыкладам для кожнага хрысьціяніна ёсьць жыцьцё і дзеяньне нашага збаўцы Ісуса Хрыста. У чэсьць важнейшых падзеяў з Ягонага жыцьця ўстаноўлены розныя сьвяты. Якраз цяпер ёсьць час Вялікага Посту —гэта час успаміну 40-дзённага посту Хрыста перад пачаткам Ягонае вучыцельскае дзейнасьці, і адначасна гэта ёсьць час падрыхтоўкі да найвялікшага сьвята Уваскрасеньня Хрыста.

Сам пост з дробнымі ахвярамі і паўстрымасьцю ад некаторых стравау і ад гульняў у Імя Хрыста ёсьць магутным дзейнікам, каб сьцерці шэрую будзеннасьць з нашых паводзін. Хто як хто, але эміграцыя ў часе Посту, які падрыхтоўвае хрысьціян да годнага спатканьня найбольш раданаснага сьвята Уваскрасеньня Хрыста, можа лёгка ўявіць, што мы ня толькі эмігранты з свае зямное бацькаўшчыны, але мы агулам толькі нядоўгавечныя эмігранты на зямлі, а наша вечная бацькаўшчына ёсьць Неба. Хутка мінецца пост і той, хто яго захоўваў, з вялікаю радасьцю будзе на Вялікдзень удзельнічаць у сьпеве «Хрыстос Уваскрос...» Таксама хутка мінецца наша дачаснае жыцьцё і трэба будзе адыйсьці ў нашу вечную бацькаўшчыну — і было-б неімаверна вялікаю стратаю, калі-б некаму пыл будзёншчыны так прысыпаў духовае жыцьцё, што душа не змагла-б узьняцца ў Неба, але апусьцілася б да вечнае загубы.

Каб не дапусьціць да такое вялікае страты, каб перасьцерагчы чалавека, устаноўлена шмат сьвят і пабожных практык. Можа часам неаднаму выдавацца, што іх ёсьць аж зашмат, але гэта дзеля таго, каб хоць некаторыя з іх змаглі закрануць сэрца і душу чалавека, узрушыць яе і стрэсьці прыкоўваючы да зямлі: «пыл».

Некаторыя з гэтых практыкаў так уздымаюць душу чалавека, што агулам для такое душы зьнікае шэрая будзённасьць; нават даймаючыя цярпеньні трацяць сваё, балюча ранячае чалавека, вастрыё. Шырокаведамы а. Матэй Кролей-Бэвэ, які запачаткаваў прапаганду культу Хрыста-Валадара Любові ў кожнай хрысьціянскай сям'і, апавядае шматлікія ўзрушаючыя абразкі з жыцьця тых сем'яў, якія ў сваіх дамох урачыста абвесьцілі Хрыста сваім Валадаром. Аднойчы а. Матэй адведваў убогую работніцкую сям'ю, якая шмат цярпела. У бедным памешканьні ляжала цяжка хворая жонка работніка; з кожнага кутка пакойчыка веяла беднасьцю, толькі образ Хрыста — Валадара Любові красаваўся на покуці. Гледзячы на цярпеньне хворае і ўсяе сям'і а. Матэй зьвярнуўся да іх, як да вельмі няшчасных людзей з спачувальнымі словамі. На гэта хворая адказала:

— Ойча, мы не няшчасныя! Мы цярпелі, гэта праўда, але мы цярпелі з Ім — пры гэтых словах яна зьвярнулася да абразу Хрыста.—Мы плакалі, гэта праўда, але мы плакалі з Ім. Ён нас суцяшаў ува ўсіх турботах, Ён злагоджваў усе нашыя цярпеньні!» І вочы хворае, зьзяючыя нязвычайным бляскам, сьведчылі, што яна гаварыла шчырую праўду. У гэтым доме, дзе было толькі бядоты і цярпеньня, ня было ні сьледу прыгнобленьня. Там кожная падзея, кожная зьява набірала глыбокага надпрыроднага зьместу, страсала пыл будзённасьці, бо там Хрыстос быў заўсёдным госьцем.

Хрыстовая Царква мае нявычарпальны скарб розных спосабаў і магчымасьцяў супраць будзёншчыны. Ня будзем іх усіх пералічыць у рамах невялікага артыкулу. Аднак даволі будзе вышэйнаведзеных прыкладаў, каб узбудзіць цікавасьць да іх прынамся ў людзей добрае волі. Варта пазнаваць гэтыя спосабы і карыстацца імі ў штодзенным жыцьці, каб з гэтага жыцьця страсьці пыл шэрае будзёншчыны і нават найдрабнейшы свой учынак накіраваць да вялікае мэты нашага жыцьця.

**а. Леў.**

# СУЧАСНАЯ БЯЗБОЖНАСЬЦЬ

Бязбожнасьць ня ёсьць вынахадам дваццатага веку. Ужо прарок Давід пісаў: «Сказаў дурань у сэрцы сваім: Няма Бога!» (Пс. XIII, 1). Нават у пабожны час сярэднявечча не бракавала бязбожнікаў. Аднак ніколі да гэтага часу бязбожнасьць ня пpыймала такіх пагражаючых разьмераў і формаў, як цяпер. Сёньня мы сьведкамі, як цэлыя аграмадныя дзяржавы маюць бязбожнасьць за аснову свайго ладу. Сучасныя бязбожнікі будуюць шырокія пляны, каб бязбожнасьць запанавала па ўсім сьвеце. Пляны гэтыя ідуць з розных бакоў і рознымі дарогамі.

Гэтае грознае зьявішча, на вялікі жаль сталася не бяз віны самых вернікаў. Абыякавасьць у выконваньні сваіх хрысьціянскіх абавязкаў, стварыла спрыятлівы грунт для разросту бязбожнасьці і дала магчымасьць бязбожнікам пабольшыць свае рады.

У абліччы гэтае небясьпекі трэба паважна прыглянуцца да гэтага грознага зьявішча, каб магчы яму супрацьдзеяць.

Гаворачы аб бязбожніках, трэба ведаць, што ня ўсе яны аднолькавыя, ня ўсе аднае масьці. Ёсьць некаторыя бязбожнікі так званыя тэарэ-

тычныя, якія быццам стараюцца шукаць Боскасьць, але шукаюць дрэнна і таму не знайходзяць. Адны з іх прывыкшы да матэрыяльнае тэхнікі, хацелі-б і Бога выявіць нейкім матэрыяльным інструмантам, або досьледам. А таму, што матэрыяльная тэхніка ў дачыненьні да надпрыроднага сьвету бясьсільная і нічога ня выяўляе, дык такія дасьледнікі сумняюцца ў існаваньне надпрыроднага сьвету. Але больш разумны за гэткіх бязбожнікаў быў-бы шавец, які-б даказваў, што няма сонца, бо ён яго ня можа дастаць сваім шылам.

Іншыя йдуць крыху далей. Замест матэрыяльных досьледаў, яны хочуць успрыняць Бога пачуцьцёва-матэрыяльным паняцьцем, і ясная рэч, гэткім паняцьцем ня могуць успрыняць Боскасьці, бо да Бога вядзе ў першую чаргу нутрана душэўны акт, а іншыя акты і паняцьці ўспамагаюць гэты працэс. Не займаючыся дакладным разборам гэтых бязбожным тэорыяў, скажам коратка, што яны самі ў сабе вельмі хісткія, а доказаў існаваньня Бога ёсьць так шмат і такія рознаякія, што гэткія бязбожнікі-тэарэтыкі ніколі ня моrуць на доўгі час трымацца сваіх тэорыяў ў добрай веры. Пры тым гэткіх бязбожнікаў агулам ёсьць ня шмат.

Вялікая колькасьць бязбожнікаў стаецца больш простым спосабам. Гэта будуць так званыя практычныя бязбожнікі. Некаторых з іх атоесамліваюць рэлігію з дробнымі мяйсцовымі абрадамі, або нават з забабонамі, якіх трымаюцца маласьведамыя вернікі. Адкідаючы гэтыя забабоны, яны адкідаюць і рэлігію. Ня шмат розьняцца ад іх тыя, якія нятакты сьвятароў уважаюць за адзіную «доказовую сілу» на карысьць недаверства. Згоршыліся паводзінамі нейкага сьвятара і ваююць супраць рэлігіі. Такія бязбожнікі стаюцца падобнымі да тае маткі, якая памыўшы дзіця, выліла яго разам з памыямі вон.

Значна большы процант бязбожнікаў спараджае маральны ўпадак і злачыннасьць. Падобна, як у гнільлі множыцца рабацтва, так у немаральным асяродзьдзі множыцца бязбожнасьць. Распусьнікам і злачынцам Божыя прыказаньні стаюцца страшэннаю пагрозаю. Дык каб заглушыць голас свайго сумленьня, яны хаваюцца ў гурт бязбожнікаў, быццам тыя курапаты, якія хаваюць голаву ў сьнег перад няўнікнёнаю небясьпекаю.

Да гэтае групы бязбожнікаў далучаюцца тыя, якія дзеля духовага гультайства йдуць па наймяншай лініі супраціву ў адносінах да сваіх змыслаў. Яны раней, ці пазьней даходзяць да маральнага ўпадку, а праз яго ў бязбожнасьць.

Але бадай што найбольш бязбожнікаў выходзіць з дрэннага асяродзьдзя і з неразважнага жаданьня патураць модзе, хоць-бы яна была найбольш паганая. Ахвярамі дрэннага асяродзьдзя і ліхое моды стаюцца ўсе тыя, якія самі ня хочуць думаць, ды йдуць «сьледам за дзедам», не зьвяртаючы ўвагі на тое, куды гэты сьлед вядзе.

Ёсьць так-жа нямала такіх, якія ўважаюць, быццам бяз Бога і рэлігіі жыцьцё можа быць выгаднейшым і шчасьлівейшым. Некаторыя з іх схільны прызнаць, што рэлігія можа быць карысна «масам», але ім асабіста яна непатрэбная і нявыгадная. Жыцьцё ў бязбожных краінах, дае вымоўны адказ на гэткі пагляд.

Усе гэтыя і падобныя адмены бязбожнасьці маюць адну супольную рысу — усе яны апіраюцца на самаабмане. Яны ня маюць ніякіх доказовых пераконваючых аргумэнтаў. Практыка адназгодна сьведчыць, што дзе толькі бязбожнікі даходзяць да ўлады, дык пашыраюць сваю навуку не пераконваньнем, але грубаю сілаю і тэрорам.

Нельга сабе ўявіць, каб сучаснае масавае распаўсюджаньне бязбожнасьці ня мела глыбейшага сэнсу ў Божым пляне. Можна дагадвацца, што добры Бог дапусьціў масавую бязбожнасьць, каб праз гэта ясна выявіць усю недарэчнасьць бязбожнага сьветапогляду. Бог дапусьціў, каб нарэшце ўсе людзі, якія маюць вочы, каб убачылі; якія маюць вушы, каб пачулі; якія маюць розум, каб зразумелі — што найгоршым злом для чалавека на зямлі ёсьць бязбожнасьць.

На словах некаторыя тэорыі выглядаюць вельмі прыгожа і гэтым зводзяць людзей, але ў практыцы наадварот. Так маецца справа з бязбожнасьцю. Калі яна з вуснай засьлепленых адзінак і з старонак кнігаў ды газэтаў пачала пранікаць ува ўсе галіны людзкога жыцьця, тады выявіла сваё сапраўднае аблічча. Калі бязбожнасьць пачала ажыцьцяўляцца і ў культуры і ў палітыцы, у дыпляматыі і ў маральнасьці, ў дзяржаўным ладзе і ў гаспадарцы, у сямейных адносінах і ў школьніцтве, у навуцы і ў практыцы,— тады выявілася сапраўдная вартасьць гэтае тэорыі ў моры сьлёз і рэчках крыві.

Там дзе над дзяржаваю залапацеў бязбожны сьцяг і пачалі крышыцца крыжы сьвятыняў, вынішчаць сьвятароў, там паўставалі шматмільённыя канцэнтрацыйныя лягеры, а нязьлічаная тайная і яўная паліцыя здушвала і найменшы праяў свабоднае думкі. Словам, там можна было пераканацца, што чалавеку дае бязбожнасьць і што ў яго забірае. Там відаць, чаго варта жыцьцё бяз Бога.

Ня цяжка з гэтых фактаў зрабіць адзіны разумны выснавак, што пляную чы лепшую будучыню народу і сваю асабістую, трэба быць моцна пераканаными, што асягнуць гэта магчыма толькі з Богам на аснове Ягоных прыказаньняў, а бязбожнікі ўсіх відаў і адменаў ёсьць толькі разбуральнікамі і шкоднікамі ў народзе.

# ТЫ І ЯНА

(Працяг 10-ы).

РАЗЬДЗЕЛ 7-ы.

### Завугольныя зносіны.

Выпадае яшчэ заняцца найбольш брыдкім надужыцьцём плоцьнага гону, каторы шукае задаваленьня ў бессаромных зносінах з асобамі вулічных паводзінаў, якія распустаю зарабляюць сабе на пражыцьцё. Да ўсіх прычынаў недазволенасьці прынагадных плоцьных зносінаў, аб якіх была гутарка ў папярэдніх разьдзелах, завугольныя зносіны маюць яшчэ свае асаблівыя прычыны. Дастаткова зьвярнуць увагу на тое, што тут зьвярыная частка чалавека даходзіць да дэспатызму, а ўсякія вышэйшыя прычыны паўстрыманасьці, як сарамязьлівасьць. чэснасьць, пашана ўласнага і чужога цела топчуцца ў балота. Тут ужо для духовых праяваў няма зусім мейсца; чалавекам авадодвае нізкая цялесная пажадлівасьць. Пры гэтым узровень думак тых літасьці годных істотаў з каторымі спатыкаецца малады чалавек, пранікае ў ягонае нутро, заражае яго сваімі бакцылямі і нішчыць, як атрута, усякае вышэйшае імкненьне. Ужо толькі адзін страх перад успамінам гэтае сутычкі, якая выклікае агіду і абрыдлівасьць, павінен паўстрымаць маладога чалавека ад гэткага кроку.

Акрамя нізкага маральнага ўпадку ў завугольных зносінах ёсьць яшчэ горшая небясьпека, гэта: найлягчэйшая нагода заразіцца вэнэрычнымі хваробамі. Вельмі часта выстарчае адзін дрэнны крок, каб атруціць назаўсёды сваё жыцьцё і жыцьцё цэлае сям'і.

Агулам усе вэнэрычныя хваробы брыдкія, але найгоршыя з іх і адначасна найбольш распаўсюджаныя ёсьць дзьве. Вось некалькі слоў аб кожнай з іх.

Першая называецца ганаррэя. Выклікаецца яны маленькімі мікробамі, якія перадаюцца праз плоцьныя зносіны. Размнажаюцца мікробы вельмі хутка і некалькі дзён пасьля заражэньня выклікаюць першыя азнакі хваробы: сваеасаблівае выдзяленьне гною.

Гэтую хваробу адносна лёгка можна вылячыць, калі пачаць яе лячыць неадкладна і паважна. Калі-ж лячэньне адкладаць, дык хвароба спрычыняе страшэнная цярпеньне. Потым нельга спыніць выдзяленьне гною і гэтая немач можа астацца на ўсё жыцьцё. У жанчын яна звычайна выклікае бязьдзетнасьць, калі-ж у пачаткавых стадыях хваробы і родзяцца дзеці, дык заражаюцца падчас нараджаньня і сьлепнуць. Выстарчае калі іхныя вочкі дакрануцца да якое небудзь заразнае часткі разродчых органаў, каб асьлепнуць.

Другая вэнэрычная хвароба гэта пранцы, або сыфіліс. Яна таксама пераносіцца мікробамі, ды ня толькі праз плоцьныя зносіны, але дастаткова дакрануцца нейкага заражанага прадмету, якою колечы часткаю цела, дзе ёсьць маленькія пашкоджаньні шкуры, каб заразіцца. Часта заражаюцца праз пацалункі, калі вусны чуць патрэсканыя.

Нядоўга пасьля заражэньня зьяўляецца на целе невялічкі і небалючы валдырок. Хворы часта навет не заўважвае гэтага першага аб'яву хваробы; зрэштаю валдыр хутка зьнікае.

Калі занядбаць лячэньне ў гэтай стадыі, дык атрутная зараза пранцаў пранікае ў кроў і ўсё цела стаецца заражаным ды наступае другая стадыя хвробы. Праяўляецца яна тады розна: зьяўляецца высыпка маленькіх чырвоных плямаў, або творыцца верад у ротнай падзі, залозкі напухаюць і пад.

Энэргічнае лячэньне ў гэтай стадыі можа ўзмоцніць адпорнасьць арганізму і азнакі хваробы могуць занікнуць, здароўе сяк так можа вярнуцца, але трэба ведаць, што звычайна ў гэтай стадыі хвароба ня зьнікае хутчэй, як па доўгачасным лячэньні. Апошнім часам дзякуючы вынахаду пэніцыліны гэтае лячэньня значна палепшана і прысьпешана, аднак заўсёды трэба памятаць, што самое зьнікненьне азнакаў хваробы можа быць вельмі зводным. Бяда, калі хворы нявылечыўшыся зусім уступіць у сужэнства.

Калі мікробы ў арганізьме ня зьнішчаны зусім, дык пасьля некалькі гадоў повіднага здароўя наступае трэцяя і апошняя стадыя пранцаў. Тады ўжо ўсё цела затручана заразаю і азнакі хваробы могуць праявіцца на любым органе. Часта творацца глыбокія верады на косьцях, на нутраных органах і разьядаюць іх. Сьледам за гэтым ідзе паралюш мазгоў або нэрваў. Потым могуць прылучыцца сухоты хрыбетнага мазгу і разьмякчэньне мазгоў. Апошняя з гэтых хваробаў паступова паралізуе ўсякую дзейнасьць розуму, чуцьцё і рух; вядзе да поўнага ідыятызму і, паводля слоў аднаго лекара, перамяняе чалавека «ў найсумнейшую руіну, аб якой толькі льга падумаць, пакуль над гэтай непадобнай да чалавека істотай, духова даўно памёршай, а толькі яшчэ вэгэтуючай бяз руху, ня зьлітуецца сьмерць».

Страшэннае няшчасьце бывае тады, калі хворы, уважаючы сябе за вылечанага, жэніцца. Хутка хваробай заражаецца жонка. Няшчасная маладзіца сохне тады на вачох, бо яе жыцьце атручана і цялесна і маральна. Жутка бачыць тых, якія нядаўна цьвілі здароўем, а хутка пасьля ў

сужэнстве пачынаюць хварэць, вянуць і па нямногіх гадох ідуць у дамавіну. Хворыя на пранцы могуць радзіць дзяцей, але найчасьцей гэтыя дзеці родзяцца пакрытыя ранамі і на шчасьце для сябе хутка ўміраюць Часам аднак здараецца, што хвароба набірае моцы па гадох, каб у далейшым нішчыць сваю ахвяру.

Надзейнага абароннага сродку перад заражэньнем у завугольных плоцьных зносінах няма. Упадак найчасьцей здараецца ў п'яным стане, калі алкаголь замуціць розум і разбудзіць пажадлівасьць, якая не зважае на ніякія сродкі асьцярожнасьці. Лекары аднагодна цьвердзяць, што лік вэнэрычна хворых страшэнна вялікі. Але ў натуры гэтай хваробы ёсьць тое, што яна жадае хавацца.

Ёсьць толькі адно пэўнае застрахаваньне перад гэтай заразай: чыстае жыцьцё. Для дарастаючага мужчыны павінна быць справай зусім яснай і непахісна пэўнай, што ён ніколі не дазволіць сабе на грэшныя і брудныя зносіны. Нястача станоўкасьці, хісткасьць заўсёды вядзе да ўпадку.

Хто супраць пажадлівасьці не паставіць нязломнага «Не!», хто можа тайком падтрымоўвае жаданьне, скарыстаць з нагоды, каб задаволіць свой гон, той пры першай спакусе можа ўпасьці і тады павінен так-жа быць падрыхтаваным на тое, што тую нават аднаразовую, кароткатрываючую цялесную прыемнасьць трэба будзе аплачваць стратаю свайго шчасьця і шчасьця свае сям'і.

## РАЗЬДЗЕЛ 8-ы.

## БУДЗЬ РЫЦАРАМ.

Згодна з Божаю воляй большасьць людзей прызначана да сужэнства. Сямейнае жыцьцё павінна для іх стацца крыніцай найчысьцейшае, найпрыгажэйшае, найпрыямнейшае радасьці. Праўдзівага шчасьця ня знойдзеш на вуліцы, у балёвай салі, у кінотэатрах, у публічных кутках, на прагулках, у спорце і тым падобных разрыўках; яно перахоўваецца ў дамашняй цішыні, і ўзрастае на глыбокай, шчырай і чыстай любові сужонкаў, бацькоў і дзяцей.

Неабходнай умовай, якая вядзе да шчасьця, ёсьць адпаведныя адносіны мужчыны да жанчыны. Ён павінен у ёй бачыць сяброўку жыцьця, вернага прыяцеля і матку сваіх дзяцей і згодна з гэтым адносіцца да яе. Такі сьветапогляд ня прыходзіць сам сабою; яго трэба здабыць, перамагаючы ніжэйшую натуру. А здабыўшы, яго трэба абараняць перад шматлікімі ворагамі. І гэта ёсьць заданьнем дарастаючага маладога мужчыны, каб сабе ўмець вырабіць і прысвоіць той шляхотны падыход да будучай сужонкі. Акурат у гадох фізычнага і духовнага дасьпяваньня фармуецца яго паняцьце аб жанчыне. Гэта ёсьць быццам апошнім дапаўненьнем і вынікам яго ўласнага ўнутранага вырабленьня. Чыстае, глыбокае і радаснае шчасьце сужэнства чакае толькі тых, каторыя ў час дасьпяваньня з натугай і сьведамым высілкам дайшлі да чэсьці ў адносінах да жанчын, сталіся праўдзівымі рыцарамі.

Трудна было-б зразумець, каб наймудрэйшы Бог, так не распарадкаваў, што пры нармальным разьвіцьці ў хлапца і юнака не прабудзіўся-б сам сабою дух рыцарства.

Найцясьнейшыя сувязі якія толькі бываюць у жыцьці чалавека — гэта сувязі дзяцей з маткаю. Пэўна-ж дзеці не разумеюць і доўгі час не дацэньваюць таго, чым для іх ёсьць матка. Ды гэта ім у дзяцінстве і непатрэбна. Але Бог так усё ўладзіў сваім няскончаным розумам, што дзеці зусім залежаць ад маткі. Яна для іх ёсьць усім. З ея рук дзіця атрымоўвае ўсе дабрадзействы; гадуецца на яе каленях. Дзіця мае змогу ўсьцяж бачыць і падзіўляць ахвярную, дбайлівую, няўтомную мацярынскую любоў. Дзеля таго зусім натуральным ёсьць тое зьявішча, што спаміж усіх магчымых і ўяўных багацьцяў, якія дзіця найбольш цэніць, матка займае першае мейсца.

Гэтая поўная чэсьці любоў стаецца больш глыбокай, калі хлапец пачынае цяміць зьмест слова «матка». Мацней і жывей б'ецца ягонае сэрца, калі ён усьведамляе, што дзякуючы матцы, ён атрымаў жыцьцё: «у яе ціхім улоньні пад сэрцам прабываў я калісь праз дзевяць месяцаў, а яна ў той час усьцяж аба мне памятала, малілася за мяне, чакала майго прыходу. З якой увагай сачыла за ўсім каб мне не пашкодзіць! Дзеля мяне пераносіла нявыгоды, выракалася прыемнасьцяў; уканцы — прычыняючы вялікі боль пакінуў утульнае памешканьне пад яе сэрцам; яе жыцьцё тады было ў небяспецы, каб толькі меня абдырыць жыцьцём. Якая-ж затое, была яе вялікая радасьць, калі мяне першы раз узяла ў свае абыймы, туліла да грудзей і цалавала. Пасьля праз доўгія месяцы карміла мяне сваімі грудзьмі і адначасна служыла мне так, як нікому іншаму не пасьмела-б гэтага рабіць. Колькі клопатаў, цярплівасьці, вырачэньня і ахвяр — колькі бяссонных ночаў — пакуль я не падрос і не пачаў сам сабе даваць рады! Колькі дабраты і любові дарыла яна мне! З якой чульлівасьцю заўсёды спаглядала на мяне!»

**Гэтая чэсьць для свае маткі ёсьць фундамантам рыцарскіх адносінаў юнака да жанчыны агулам. Толькі той, хто шануе годнасць маткі, можа мець рыцарскія пачуцьці. Дарэмна мы шукалі-б чэсьці для дзяўчыны ў таго маладога чалавека, каторы не навучыўся паважаць сваю матку і мацярынства.**

(Працяг будзе).

Паводля кніжкі Шільгэна «Du und Sie»
апрацаваў **Васіль Друя.**

# НЯЧЫСЬЦІК

Апошнім часам у розных рэлігійных кругох сьцьвердзілі сумны факт, што ў сучасным пакаленьні ня толькі бязбожнікі, але нават шматлікія вернікі да тае стапені сумняюцца ў існаваньне нячысьцікаў, што часам нават рыскоўна закранаць гэтую справу. Але з другога боку якраз гэтыя абставіны змушаюць парушыць гэтае пытаньне хоць у самых асноўных пунктах, бо-ж нельга маўчаць тады, калі з моўчанкі карыстаюць варожыя сілы.

Памінаючы прычыны агульнага недаверства і шукаючы прычыны недаверу ў нячыстую сілу, ня цяжка сьцьвердзіць, што карані гэтага зьявішча знайходзяцца галоўным чынам у тым факце, што яшчэ да гэтага часу галоўнай крыніцай фармаваньня паняцьця аб нячысьціках была і ёсьць народная творчасьць: казкі, лягэнды, міты і прыказкі. Там нячыстая сіла выступае вельмі часта і пад рознымі назовамі, як: чорт, шайтан, нячысьцік, ліхое, злое, насланое і агулам погань. Уласьціва ўсе гэтыя назовы ёсьць толькі вобразнымі акрэсьленьнямі таго самага чорта, бо пабожныя старавeтныя беларускія звычаі наказвалі якнайменш ужываць слова чорт.

І вось гэты чорт, ці агулам злое, у беларускай народнай творчасьці ёсьць чыста фантастычным. Там ён сапраўды «не такі страшны, як яго малююць», а малююць так-жа ня страшным. Гэта часта жалюгодны чорцік, якога можна і абдурыць, і насьмяяцца, і нават выкарыстаць ягоныя прыслугі, таму няма патрэбы яго вельмі сьцерагчыся, бо «вялікае крыўды нават і чорт ня любіць». А супраць бабаў, дык гэты чорт зусім бязрадны, «баба і чорт — адно другога не баяцца», або яшчэ лепш: «Баба і чорта зьвядзе».

Бяспрэчна, што дабрадушнасьць і лагоднасьць беларускага народу мела рашаючы ўплыў на фармаваньне постаці чорта ў народнай творчасьці, таму і вышаў ён такім бясшкодным, але аднычасна чыста фантастычным. Чорт з беларускае народнае творчасьці акрамя назову, ня мае нічога супольнага з сапраўдным нячысьцікам — злым духам. Да таго трэба сьцьвердзіць, што беларуская народная творчасьць з гэтага гледзішча не становіць вынятку; у іншых народаў можна назіраць амаль тое самое. Дык няма дзіву, што сёньня такога «чорта» шмат хто паважна ня прызнае. Па прывычцы яшчэ ўжываюцца розныя звароты мовы, дзе сустракаецца слова «чорт», але найчасьцей яно пазбаўлена ўсякага дэманічнага зьместу.

Абразы і малюнкі найчасьцей так-жа тварыліся пад уплывам народнае творчасьці. Прадставіць-жа нячыстых духаў малярскім спосабам агулам цяжка. Тут магчымыя толькі розныя сымбалі.

Беларуская літаратура, калі выводзіла асобу нячысьціка, дык ня інакш, як запазычаючы яго з народнае творчасьці.

Багаслоўскае паняцьце аб злых духах, дзеля шматлікіх незалежных ад народу прычынаў, было замала ведама так у народных масах, як і ў асяродзьдзі інтэлігэнцыі.

У выніку ўсяго гэтага сучаснае пакаленьне стаіць перад сумным фактам жалюгоднага няведаньня злых духаў.

Адкуль-жа можна пазнаць іх?

Для сьвецкае навукі справа нячысьцікаў амаль чужая. Праўда, філязофы часам закранаюць гэтае пытаньне, але найчасьцей абмяжоўваюцца толькі справаю існаваньня духаў агулам і дакладней у сутнасьць справы ня ўнікаюць. Таму адзінаю крыніцаю веды аб нячыстых духах астаецца сёньня, як і заўсёды была, багасловія. Толькі адтуль можна і трэба чэрпаць непамыльную веду аб надпрыродным сьвеце, а тым самым і аб нячысьціках, бо багасловія апіраецца на непамыльным Божым абʼяўленьні. Пазнаць гэтыя справы неабходна кожнаму чалавеку, бо кожны з нас штодня спатыкаецца з пытаньнямі і зьявамі, якія беспасрэдна, ці пасрэдна зьвязаны з нячыстымі духамі, але не заўважваем гэтага.

З абʼяўленьня ведама, што на пачатку тварэньня Бог стварыў чыстых духаў — ангелаў. Усе яны былі створаны добрымі. але мусілі прайсьці час пробы, падчас якога частка ангелаў зграшыла і тым самым адпала ад Бога — сталася чарцямі, воргамі Бога. Прычынаю граху адпаўшых ангелаў была гордасьць, якая ад таго часу сталася агулам пачаткам усякага граху (Экл. X, 15).

Сапсуцьцё найлепшага ёсьць найгоршым, кажа старая рымская прыказка, таму і найлепш Божы твор — ангел, пасьля граху стаўся найгоршаю і найагіднейшаю істотаю — злым духам, чортам. Любоў да Бога і да іншых істотаў у яго замянілася ў нянавісьць да Бога і да ўсяго існуючага. Замест добразычлівасьці зьявілася жаданьне руйнаваць і бунтаваць; гэтае жаданьне ніколі не дае супакою нячысьціку, а праз яго і ўсім іншым сатварэньням.

Чартоўская гордасьць прыняла няімаверныя хвараблівыя формы жаданьня ўлады. Ненасытнае жаданьне панаваць і мучыць кожнага, хто толькі паддасца пад уладу нячысьціка выяўляецца ў пекле. Хоць над мейсцам страшных мукаў, хоць над жалюгоднымі істотамі, нячысьцік мае быццам нейкую ўладу. У апраметнай цемры ён «сьвеціць» сваім звыраднелым сьветам сваім паднявoленым.

Па век веку злы дух ня можа быць абыякавым да ўсяго таго, што ёсьць добрага па-за ім.

«Чорт, як леў рыкаючы, ходзіць, шукаючы каго зжэрці» (1 Пятра V, 8). Усе свае сілы ён накіроўвае на тое, каб сапсаваць добрае, загідзіць прыгожае, засмуціць шчасьлівае, уподліць шляхотнае. Толькі духовая прырода і розум ангелаў астаўся ў нячысьціка такім, якім быў створаны, але і ён накіраваны выключна на зло.

Нячысьцікі ня могуць быць абыякавымі да чалавека, бо чалавек для іх ёсьць заўсёдным дакорам, што такі слабы і недасканалы можа дайсьці да вялікае дасканаласьці і да Бога, а яны, нячысьцікі, быўшы калісь такімі велічнымі і дасканалымі праз грэх сталіся найгоршаю нечысьцю і агідаю, якая толькі ёсьць на сьвеце. Таму яны стараюцца прывесьці людзей да граху, упадобніць да сябе.

Ня раз можна пачуць пытаньне: Чаму нячысьцікам дана такая магчымасьць, спакушаць людзей? У гэтым ёсьць Божая тайна, але магчыма, што ў гэтым ёсьць кара для злых духаў, бо спакушаючы чалавека, яны самі мусяць мучыцца перажываючы часта ўпакораньне супраць слабасьці чалавека; або яшчэ горш, падчас раскаяньне ўпаўшага чалавека.

Але якім-жа чынам такі агідны злы дух можа падступіцца да чалавека і спакушаць, каб разумны чалавек не пазнаў яго? Гэта бачна з першага граху нашых прабацькоў.

Там нячысьцік выступае пад чужым, нявінным відам у вобразе зьмея. Ён занадта гідкі, каб паказвацца з сваім аблічам і таму заўсёды хавецца пад чужое. Спакушаць пачынае прыязнаю гутаркаю, потым радзіць не зважаць на Божыя прыказаньні, бо быццам зьеўшы забароненыя Богам плод, чалавек можа стацца падобным Богу. Спакусьнік гаворыць быццам дабрадзей; з немачнага чалавека хоча зрабіць Бога; пабуджае людзкую гордасьць. Спакусьнік гаворыць быццам шчыры і добразычлівы, а ў сапраўднасьці ён подла маніць і жадае найгоршага зла: кожнае яго слова — гэта спрытна прыхованая хлусьня. Чорт — бацька хлусьці. (Ів. VIII, 44).

І паслухаліся прабацькі чорта ў вобразе зьмея, паслухаліся маны прыкрытае повідам праўды. паслухаліся лютага ворага з лісьлівымі словамі і сталіся няшчаснымі.

Ад таго часу і да канца веку нячыстая сіла не дае супакою чалавеку. Нячысьцікі пад рознымі абліччамі і маскамі стараюцца падступіць да чалавека. Ня раз «чорт прыкідваецца ангелам сьветласьці» (II. Кар. XI, 14), каб зьвесьці чалавека. Злы дух ня знае ніякіх межаў у подласьці, хлусьні і злобе. Той, хто думае, што «вялікае крыўды і чорт ня любіць» страшэнна памыляецца. Злы дух мае ненасытнае жаданьне зла. Як злосны нараст на целе — рак, чым больш расьце, тым больш спрычыняе болю і тым больш забірае сокаў з цела, падобна і нячысьцік, чым больш робіць ліха, тым больш распальваецца жаданьнем шкодзіць. Няма такого чорта, якога можна было-б чымнебудзь задобрыць. Нават і народная творчасьць высьмеяла тую бабульку, якая ставіла сьвечкі перад Хрыстом і перад Люцыпарам на абразе Страшнога Суду, кажучы: «Ня ведаю, дзе па сьмерці буду, дык ня шкодзіць усюды мець ласку». У пекле няма ласкі для нікога.

Калі хто меў няшчасьце быць у назістоўскіх, ці бальшавіцкіх канцлягэрах, ці ў Бярозе Картускай, той мог бачыць частку пекла на зямлі і людзей, якія выконваюць чартоўскую службу. Жаданьне мучыць іншых у гэтых людзей так-жа ня мела межаў.

Але ня трэба хадзіць аж у канцэнтрацыйныя лягэры, каб убачыць сьляды нячысьціка на зямлі. Ужо ад векоў чорт стаўся «богам гэтага веку» (II. Кар. IV, 4) і на кожным кроку няўпрыцям выстаўляе кончык свайго «капыта». Варта толькі ўважней зацікавіцца, адкуль нам прыходзяць у галаву ліхія намеры, паганыя думкі, лютая нянавісьць і ўсякая іншая злоба, каб сьцьвердзіць, што не заўсягды іхняю прычынаю ёсьць намова, дрэнная кніжка ці кіна, ці паганы прыклад, — але вельмі часта яны бяруцца ў нас самых і маюць нейкі прыхованы пачатак. Аб гэтым цяпер гаворыцца вельмі мала, а нават і зусім не гаворыцца і дзеля гэтага мы часта няўпрыцям ідзём якраз за тымі таёмнымі подшаптамі нячыстага. На дарогах і мейсцах, дзе чалавеку пагражае небясьпека людзі стараюцца паставіць розныя знакі з асьцярогамі, але бяда нашага веку, што ад найбольшай небясьпекі, ад найгоршага ворага людзкога роду, ад нячысьціка сталася модным не асьцерагацца. Карыстаючы з гэтага, ён бясьпечна разгульвае па сьвеце, рыхтуючы свае каведныя пляны для загубы нашае душы.

Людзі, якія трапляюць у палон злых духаў, часам запозна заўважваюць гэта. Часам гэта здараецца толькі перед самай сьмерцю, калі ўжо пачнуць слабець вязі душы з целам, тады перад душэўнымі вачыма вырынаюць нячысьцікі ўва ўсёй сваёй агіднай і жахлівай сапраўднасьці і тады няшчасная душа пачынае перажываць пачатак пякельных катаваньняў. Дзеля гэтага сьмерць некаторых яўных грэшнікаў і злосных бязбожнікаў стаецца больш чым жудаснаю. Лекар Франшы, які быў пры сьмерці ведамага бязбожніка Вольтэра, апавядае, што «Вольтэр памёр прасьледаваны фурыямі. — Я ўздрыгаюся, прыпамінаючы аб гэтым. Хацеў-бы, каб усе, каго зьвялі кнігі Вольтэра, былі сьведкамі ягонае сьмерці». На Беларусі часта апавядалі аб падобных жудасьцях падчас сьмерці некаторых ведзьмакоў. У гарадох заходняе Эўропы падобнаю сьмерцю часта ўміраюць людзі, якія злосна адкідаюць апошнія рэлігійныя паслугі.

Але ў гэтых апошніх хвілінах, калі душа разлучаецца з целам, найчасьцей ўжо запозна знайсьці ратунак, а да таго і сама душа бывае так зьняверанаю сваім жахлівым палажэньнем, што яе выратаваць вельмі цяжка. Дзеля тэтага трэба сабе заўчасу належна ўявіць тую небясьпеку, якую нам рыхтуе на кожным кроку, наш люты вораг — нячысьцік — і не пашкадаваць стараньняў, каб гэтую небясьпеку абмінуць.

**Манах А.**

# МОШЧЫ СЬВ. ЕЎФРАСІНІ

**Перанясеньне з Ерузаліму.**

Ня менш цікавым, як жыцьцё сьв. Еўфрасіні, ёсьць гісторыя яе сьв. мошчаў.

Хутка пасьля сьмерці сьв. Еўфрасіні для Ерузаліму насталі неспакойныя часы. Туркі пачалі пагражаць Сьвятой Зямлі. Шматлікія манахі, якія тады знайходзіліся ў Ерузаліме, перад турэцкаю небясьпекай стараліся заўгадзя пакінуць сьвятое месца. Незадоўга перад гэтым замяшаньнем мошчы сьв. Еўфрасіні на некі час былі перанесены з Тэадозіявага манастыра ў манастыр а.а. Кармэлітаў. Аб гэтам факце знайходзіцца кароткая зацемка ў Папэброхія. Кармэліты прынялі Полацкую сьвятую за сьв. Еўфрасіню Александрыйскую дачку Пафнуція і ўпісалі яе ў свае літургічныя кнігі.

Нядоўга аставаліся сьвятыя мошчы прэпадобнае ў а.а. Кармэлітаў, бо ўжо ў 1187 г. турэцкі султан Салядын займае Ерузалім. Магамэтанская ўлада варожа адносілася да хрысьціянства, але на пачатку было дазволена хрысьціянам спакойна выязджаць з Палестыны і забіраць з сабою свае сьвятасьці. З гэтага скарысталі ўсходня-славянскія манахі і выехалі з Ерузаліму, забіраючы, як вялікі скарб нятленныя рэшткі сьв. Еўфрасіні.

Як і калі перабралі яны мошчы ад а.а. Кармэлітаў ніякіх вестак няма.

Манахі мелі немер перанесьці мошчы проста ў Полацк, як аб гэтым сьведчыць народны пераказ. У гэтым падарожжы яны мелі ўжо даехаць аж да Турава, але тагачасныя варожыя адносіны між кіяўскімі і полацкімі князямі мелі перашкодзіць далейшаму падарожжу. Манахі вярнуліся ў Кіяў і палажылі сьв. мошчы у Дальных Пячорах Кіяўскага Пячэрскага манастыра пры царкве Дабравешчаньня. Там сьвятыя мошчы спачывалі доўгія вякі ў сярэбранай дамавіне. Крышка дамавіны была адчынена і прымацавана к сьцяне, а мошчы закрытыя пакрывалам. У галавах знайходзіўся абраз сьвятое і перад ім заўсёды гарэла лямпадка.

Можна дагадвацца, што манахі, едучы з Ерузаліму, зразу затрымаліся ў Кіяве і далей не прабавалі йсьці, бо ў тым часе, калі адбывалася гэтае падарожжа, гэта значыць пасьля 1187 г. на Украіне і ў паўдзённай Беларусі былі вельмі неспакойныя часы. Нядаўна перад тым у 1185 г. Полаўцы разьбілі злучаныя дружыны Северскіх князёў на чале з Ігарам Сьвятаславічам; гэтую сумную падзею ўславіў аўтар несьмяротнае паэмы «Слова аб палку Ігараве». Пасьля гэтага Полаўцы доўга непакоілі Украіну і паўдзённую Беларусь. У Полацку ў тым часе княжыў Уладзімер Валадаравіч (1180-1217), княжаньне яго было параўнаўча спакойным, таму калі-б манахі маглі дайсьці да Турава, напэўна дайшлі-б і да Полацку. Аднак факт астаецца фактам, што мошчы асталіся ў Кіяве.

Некаторыя выдатныя царкоўныя гісторыкі ўжо даўно былі зьвярнулі ўвагу, што нават у найдакладнейшых апісаньнях Кіява-Пячэрскае Лаўры нічога ня кажацца аб тым, якім чынам і калі перанесены туды мошчы сьв. Ефрасіні. Гэта магчыма выясьняецца тым, што мошчы былі там прымешчаны толькі да часу і толькі пераходам, як гэта выходзіла-б з успомненага вышэй пераказу.

**Стараньні перанясеньня ў Полацк.**

Доўга аставаліся нятленныя мошчы сьв Еўфрасіні ў Кіяве. На гэта зложылася шмат гістарычных прычын.

Дробныя войны ўдзельных князёў XII в., ў XIII в. замяніла татарская небясьпека. Беларусі татары не занялі, але часам заходзілі даволі глыбока на беларускія абшары. У страху перад татарамі каля 1234 г. манастыр сьв. Спаса апусьцеў. Тагачасная ігуменя сьв. Параска Полацкая пераехала аж ў Рым і там памерла ў 1239 г., ды залічана папаю Рыгорам X у лік сьвятых.

Манастыр доўга пуставаў, таму аб пераносе не магло быць і гутаркі. Потым, калі зноў зьявіліся манашкі ў манастыры сьв. Спаса, Беларусь перажывала паважны рэлігійны заняпад, а да гэтага ад XVI в. далучаюцца амаль бесперарыўныя войны з Маскоўшчынаю. У 1563 г. Полацк займае Іван Грозны; усё багацьцё з манастыра сьв. Спаса, як агулам з Беларусі, вывозіцца ў Маскву манастыр пусьцее зноў.

У 1580 г. Сьцяпан Батура выганяе расейскія войскі з Полацку, але манастыр сьв. Спаса ў Сяльцы з усімі маемасьцямі аддае езуітам.

У XVIII в. беларускія ўніяцкія мітрапаліты ня раз стараліся узнавіць манастыр сьв. Спаса, але

іхняе палажэньне пагоршвалася з дня на дзень і таму не змаглі ажыцьцявіць сваіх намераў.

У 1821 г. расейская ўлада выганяе езуітаў з межаў свае імпэрыі; царкву сьв. Спаса разам з манастырскімі маемасьцямі перадаюць у рукі піяраў, але ўсяго на некалькі год, бо ўжо ў 1832 г. манастыр з усёю маемасьцю перадаецца кадэцкаму корпусу, а царкву сьв. Спаса замяняецца на праваслаўную і 7-VIII-1833 г. перасьвячваецца. У 1835 г. пераносіцца ў Полацк праваслаўная епархія і пераймае ад кадэцкага корпусу манастырскую маемасьць і ў 1840 г. у Сяльцы адчыняецца праваслаўны жаночы манастыр.

Ад гэтага часу палажэньне манастыра сьв. Спаса быццам усталявалася, аднак доўгі час ня было тутаркі аб пераносе мошчаў у манастыр сьв. Еўфрасіні. Калі потым распачаліся такія стараньні, расейскія ўлады катэгарычна гэтаму супрацівіліся. Толькі ў 1870 г. 28-XI на стараньне полацкага праваслаўнага яп. Саввы і з дазволу Сьвяцейшага Сыноду кіяўскі мітр. Арсеній пераслаў у Полацк сярэдні палец правае рукі сьв. Еўфрасіні. Гэтая частка мошчаў 23-V- 1871 г. была прымешчана ў Прэабражэнскай царкве Спаскага манастыра ў Сяльцы.

Супраць пераносу ўсіх мошчаў сьв. Еўфрасіні яшчэ ў 1909 г. падымаліся шматлікія ўрадавыя расейскія галасы пераважна такога зьместу: «...Каталікі, як ведама з гісторыі, схільны прызнаць прэп. Еўфрасіню сьвятою свае царквы. Таму можна нават баяцца, каб дзеля плянаванага пераносу мошчаў прэп. Еўфрасіні з Кіява ў Полацк, ня спрычынена вялікіх няпрыемнасьцяў і шкодаў для праваславія». (Титов «Труды Киевской Дух. Акад.», т. IV, 1910 г., стр. 544.).

### Перанясеньне мошчаў у Полацк.

Не зважаючы на розныя перашкоды рэлігійнага і палітычнага характару з боку расейскіх уладаў, Беларусь не магла забыцца аб мошчах свае патронкі і пры кожнай нагодзе так з Полацку, як і з іншых мест Беларусі ішлі просьбы да духоўных уладаў аб пераносе мошчаў сьв. Еўфрасіні з Кіява ў Полацк.

Гэтыя просьбы вельмі ажывіліся і памножыліся пасьля таго, як на Кіяўскім Місійным Зьезьдзе, ў якім удзельнічала 30 праваслаўных епархаў і каля 300 сьвятароў, была падтрымана думка аб пераносе мошчаў сьв. Еўфрасіні ў Полацк. Тады па ўсёй Беларусі на зьездах духавенства і вернікаў рабілі пастановы і пасылаліся просьбы ў Сьвяцейшы Сынод аб перанясеньні мошчаў сьв. Еўфрасіні. Тагачасны полацкі яп. Серафім так-жа далучыўся да агульнага голасу.

Сьвяцейшы Сынод уканцы ня меў іншага выхаду, як прэдставіць цару ўсе гэтыя просьбы і гэтым разам цар згадзіўся даць дазвол на перанос. Уласьціва няма чаго дзівіцца такой асьцярожнасьці расейскіх уладаў адносна асобы сьв. Еўфрасіні. Яны-ж дакладна здавалі сабе справу з таго, што маюць дачыненьне з «нябеснаю апякункаю Беларусі», як гэта часам зазначалася ў тагачаснай расейскай прэсе, хоць афіцыяльна гэтая-ж прэса мусіла ўнікаць слова Беларусь і магла гаварыць толькі аб «Полацкім краю».

Даючы дазвол на перанос мошчаў, адначасна была распачатая прапаганда, каб гэтая ўрачыстасьць сталася «умацаваньнем праваславія ў Полацкім краю і важным дзейнікам у барацьбе праваславія з каталіцтвам» (Титов, усп. твор, стр. 453.).

Праграма і плян урачыстасьцяў быў апрацаваны напярод з найбольшыю магчымаю дакладнасьцю. Урачыстасьці пераносу мошчаў мелі працягвацца ад 10-га красавіка да 22-га траўня 1910 г.

Дзеля перавозу мошчаў сьв. Еўфрасіні былі прызначаны два дзяржаўных караблі: «Головачов» і «Киев», першы для самых мошчаў, а другі для суправаджаючых асобаў.

Паводля намечанае праграмы і пляну адбываліся ўрачыстасьці пераносу сапраўды з нячуванаю веліччу. Тагачасная прэса падавала дакладныя апісаньні гэтых урачыстасьцяў і вялікая шкода, што разьмеры гэтае працы не дазваляюць зьмясьціць тых апісаньняў. Коратка можна сказаць, што нятленныя рэшткі сьв. Еўфрасіні былі вынесены з Кіява супраджаныя найбольшымі рэлігійнымі ўрачыстасьцямі, якія агулам былі магчымыя. Па дарозе з Дальных Пячэраў да Дняпра абапал дарогі былі пастаўлены вайсковыя шпалеры. Тагачасная расейская ўлада і Царква аддавалі сьв. Еўфрасіні сапраўды царскія почасьці. Відаць Божы правід паказаў, што сьвятая полацкая княжна і сьціплая ігуменя Спаскага манастыра, як нябесная патронка Беларусі, ёсьць годная гэтых почасьцяў.

Па Дняпры караблі з мошчамі сьв. Еўфрасіні праплылі 695 вёрст, затрымоўваючыся па дарозе ў гарадох: Рэчыцы, Рагачове, Старым Быхаве, Магілёве і Оршы. Далей аж да Полацку перавозілі мошчы сухапуцьцем, а да манастыра сьв. Спаса зноў у караблі па р. Палоце.

Усё падарожжа суправаджалася багаслужэньнямі падчас затрымак. Увесь шлях, кудэю правозілі мошчы, абступалі аграмадныя натаўпы вернікаў. Варта ўвагі, што ў гэтых урачыстасьцях удзельнічалі вялікія расейскія князі і княгіні, між імі была нават родная сястра царыцы, а вялікі князь Канстанцін рэпрэзэнтаваў самога цара — гэты факт кажа сам за сябе, якое вялікае значэньне прыпісвалі расейскія ўлады да пераносу мошчаў сьв. Еўфрасіні.

І так пасьля 743 гадовае разлукі, у дзень яе сьвята 23-га травеня 1910 году, манастыр сьв. Спаса ўжо ў зусім адменных умовах, як калісь,

вітаў нятленныя рэшткі свае першае ігумені. З урачыстымі багаслужэньнямі пры аграмадным наплыве вернікаў з далёкіх куткоў Беларусі і з удзелам шматлікага духавенства і прадстаўнікамі царскага расейскага ўраду мошчы сьв. Еўфрасіні пастаўлена ў царкве сьв. Спаса ў вялікай дамавіне між калёнамі раўналегла да іканастасу.

### Далейшая доля мошчаў сьв. Еўфрасіні.

Нядоўга аставаліся ў супакою нятленныя мошчы сьв. Еўфрасіні ў Спаскай царкве. Відаць, што сьвятая мусіла падзяліць цярпеньні роднага краю.

Хутка пасьля выбуху вялікае кастрычніцкае рэвалюцыі бязбожная рука пачала ганьбіць сьвятыя мейсцы і агулам усё сьвятое. І вось дня 7-га ліпеня 1922 г. у «Віцебскіх Ізвесьціях» Нр. 127 зьявіўся артыкул: «Полацкія курсанты аб мошчах сьв. Еўфрасіні». Артыкул пачынаўся: «Мы, курсанты, чырвонаармейцы і каманды склад кадраў...» (Цытую паводля «Пшэглёнду Повшэхнэго» з 1927 г. стр. 74.). Далей гаварылася ў артыкуле, што яны аглядалі мошчы сьв. Еўфрасіні і што ў дамавіне знайшлі толькі струхлелыя косьці. Што з гэтымі «касьцямі» зроблена, у артыкуле не гаворыцца. Потым у прынагадных гутарках з палачанамі можна было даведацца, што дамавіну сьв. Еўфрасіні разам із спрафанаванымі мошчамі перанесьлі ў музэй. Дзе яна сёньня? У сучасных абставінах цяжка даведацца. Аднак трэба спадзявацца, што дзеля малітваў і заступніцтва сьв. Еўфрасіні, хутка прыдзе час, калі праўда выйдзе на дзённае сьвятло.

**а. Л. Гарошка.**

# На розныМполі розная доля

Дзьве маладзенькія грушкі амаль таго самага дня паказаліся на сьвет, але няроўная доля спаткала іх; адна трапіла ў вялікі сад і сталася Садоўкаю, а другая ў сумежны пусты агарод і астался там Дзічкаю. Расьлі яны недалёка ад сябе і часта гутарылі з сабою.

— Ах, якая тут роскаш і свабода, — хвалілася Дзічка перад Садоўкаю, — пераходзь сюды да мяне. Тут гуляй хоць расьпеpажыся.

— Мне і тут ня кепска, — адказвала Садоўка. — Тут паважныя суседзі, акуратны дагляд...

— Дагляд!? — перабівала Дзічка. — Гэта-ж няволя і гнобленьне.

— Паглядзі, як прыгожа выглядаюць мае суседзі, ніякага сьледу гнобленьня на іх ня знаць. — пробавала пярэчыць Садоўка.

— Гэта ў іх усё чужым коштам, усё гэта чужаеды. А да таго гэта ўсё старое, нямоднае. Вось пабачышь, я пакажу, як трэба жыць.

Аднаго дня іхнюю гутарку перарваў садоўнік. Ён зрэзаў верх у Садоўкі, рашчапіў яе кволы камельчык і ўсадзіў туды нейкую маленькую галінку ды замазаў рашчэп нейкім мазідлам.

— Ах, якая ты, няшчасная! — ківаючы галінкамі, прыгаворвала Дзічка. — Казала я табе, пераходзь сюды; не паслухала, дык вось прападаеш.

Садоўка маўчала. Ей сапраўды было не да гутаркі.

— Які зьдзек, які зьдзек! — шумела Дзічка. — Так няміласэрна рэзаць і яшчэ прыкідвацца быццам літуецца, замазвае, завязвае раны. Які нікчэмны садоўнік, люты шкурадзёр, катарэзьнік, крывасмок, жыварэз... Да мяне ён не падступіцца, я на галінках павыпускаю калючкі і ўся абрасту такім калючым гальлём...

Пару тыдняў моўчкам слухала Садоўка спачувальны шум Дзічкі, аж аднаго дня прышчэпленыя пупішкі распусьцілі свае зялёныя лісткі і прывіталі сонечны сьвет.

— Во, добра цяпер, — усьміхаючыся казаў садоўнік да маладога дрэўка.

— Эх,які ён паганы, твой садоўнік, — казала Дзічка, — так бессардэчна рэжа і яшчэ сьмяецца. Я-б яго сваім гальлём пасекла, а калючкамі пакалола. Ён цябе скалечыў навек; адзэзаў найбольш вартаснае, што можа мець дрэва — верхавіну. Цяпер ты будзеш заўсёды адсталаю, а я вось на волі буду расьці бесканечна аж да самага неба, да самага сонца; я засланю яго сваім гальлём і буду сама сьветачам для сьвету.

— Я буду так-жа расьці, колькі змагу, бо маю новую верхавіну, — пробавала загаварыць Садоўка.

— Ці-ж ты думаеш, што твой катарэзьнік табе дазволіць расьці?! Толькі папробуй, заразжа абрэжа, як ужо зрабіў раз.

Аднак не зважаючы на асьцярогу, Садоўка не на жарт пусьцілася расьці. Садоўнік толькі любаваўся і на нешта абапал яе ўбіў два калы.

— Бачыш?! Ці-ж я табе не казала, што ён зажыва няволю рыхтуе?! — неўгамоньвалася Дзічка.

Садоўка цяпер хутка расла, амаль па гадзінам. На ёй было шырокае прыгожае лісьце і нельга было прайсьці міма, не зьвярнуўшы ўвагі на гэтае маладое прыгожае дрэва. Аднойчы вецер так бесцэрэмонна пачаў тузаць за маладую верхавінку Садоўкі, што садоўнік зьвярнуў на гэта ўвагу і далікатна замацаваў яе між калоў. З удзячнасьці Садоўка шарганулася лісьцікамі за руку садоўніка і расла сабе далей.

— Як ты не сьпяшайся расьці, а ўсёроўна будзеш заўсёды адсталаю, — не давала супакою Дзічка. — Дзе-ж гэта відана, каб твой стары садоўнік дазволіў табе быць перадавым дрэвам у садзе?!

Прайшло пару гадоў. За гэты час Дзічка разрaслася. У яе гальлі часта доўга праседжвалі груганы, каршуны і совы, а ў лісьцях гуляў буйны вецер. Садоўка так-жа сталася вялікім дрэвам, толькі ў адмену ад Дзічкі мела прыгожую карону і чыстую кару і на галінках ня мела калючак. Садоўнік час ад часу абцярэбліваў непатрэбныя галінкі, абкопаў навокал яе зямлю і нешта падсыпаў пад карэньні. Ня раз ён подаўга любаваўся маладою грушаю і ласкава гладзіў яе галінкі.

— Ёсьць чым любавацца, — шапацела незадаволена Дзічка, — пару тых галінак і голы камель ды чорная зямля навокал. Вось у мяне дык зусім іншая рэч: уся абрасла — гальля дык ні прайсьці, ні пралезьці, а навокал табе таварыства...

— Якое-ж тваё таварыства? — спыталася Садоўка, пачуўшы апошнія словы суседкі.

— Ці-ж сама ня бачыш? Тут табе крапіва, дзядоўнік, лебяда і асот павырасталі чуць ня вышэй за цябе. Гэта-ж самае паступовае таварыства, самае перадавое ў расьлінным сьвеце. А дробных лепшых зёлак дык і не пералічыш: пырай, брыца, вырачкі, казялец, курасьлеп...

— Не хацела-б я быць у гэткім таварыстве.

— Бо ты сама сталася адсталаю.

— Чым-жа я адсталая? Вырасла роўна з табою, а нават больш і шырэй; лісьце маю шыршае і прыгажэйшае, чым тваё, на кары ня маю ані лушпайкаў, ані бруднага моху.

— Але гэта ўсё знакі няволі і гнобленьня.

— У тваёй гутарцы, відаць, такая самая праўда, як у калішнім тваім самахвальстве дарасьці да сонца, перарасьці неба. Цяпер нешта спыніла свой рост.

— Спыніла, спыніла, — перакрывіла Дзічка, — У мяне цяпер зьявіліся іншыя заданьні і я іх выконваю на ўсе сто процантаў. Цяпер усе сілы трэба скіраваць на падрыхтоўку цьвету.

— Я так сама пра цьвет стараюся.

— Што, ты?! Не сьмяшыла-б ты сьвету сваім цьветам. Што такое калецтва, як ты, можа добрага сплодзіць?

Прышла вясна. Садоўка ўкрылася прыгожым цьветам, на Дзічны аднак было яго ня шмат.

— Чаму-ж у цябе так мала цьвету? — спыталася Садоўка.

— Затое лісьця маю шмат. А што за карысьць, што ў цябе за цьветам і лісьця ня відаць?!

— Чакай, лісьце ў мяне будзе даволі, пабачыш, як толькі пялюсткі ападуць.

— Ты, відаць, у садзе ніколі ня зможаш вызбыцца старых пeражыткаў і забабонаў. Трэба ладзіць жыцьцё пановаму.

— А хіба-ж у новым жыцьці непатрэбен цьвет? Ты-ж сама зьбіралася ўсе сілы скіраваць на цьвет.

— Гэта было даўней, а цяпер больш, як цьвет патрэбны плады

— А якім-жа ты спосабам можаш мець плады бяз цьвету?

— Каршун і матылі мне прынесьлі весткі, што новая навука гэта ўмее зрабіць. Яны мне пакінулі сваіх настаўнікаў-вусьняў.

— А мой садоўнік вынішчае вусьняў дзе толькі можа. На мне ўжо некалькі разоў апальваў іх і апырскваў нечым. Ён кажа, што вусьні нашы найгоршыя ворагі.

— Што твой стары чмут ведае?! Ён толькі і знае рэзаць ды нішчыць. Ён цябе яшчэ гатоў навучыць маліцца, ды пасьціць заставіць.

— Ляпей-жа яго паслухаць, чым матыля.

— Бачу, што з табою шкада гаварыць. Ты сьляпая і ня бачыш, як з цябе зьдзекуюцца і адурманьваюць, — гаманіла Дзічка.

— Я ўжо свайго апякуна пазнала добра і бачу, што ён аба мне дбае добра і ніколі мяне не ашукаў. Паглядзім, ці твае настаўнікі цябе не ашукаюць.

— Тут і глядзець няма чаго. Мае настаўнікі: груганы, каршуны і совы, а яны знаюць мудрасьць усяго сьвету. — Злосна адказала Дзічка.

На адцьвітаньні, як толькі пачалі ападаць пялюсткі, усьлед за імі пасыпалася і завязь з Дзічкі, а вусьні заядла грызьлі лісьце.

Садоўка ўкрылася зеленьню і сільная завязь, як бойная раса, акрыла ўсе яе галінкі. Тымчасам Дзічка ня мела нават чым шалясьцець ; вусьні аб'елі яе дазваньня.

— Што з табою сталася? — спыталася Садоўка. — Дзе-ж твае стопрацэнтовыя пляны і верныя настаўнікі? Ці ня прыходзіць марны канец тваёй волі?

— Чакай, яшчэ прыдзе мой час.

Час ішоў, надходзіла лета і толькі на некагорых галінках Дзічкі пачалі паказвацца новыя лісткі, бальшыня галін пасохла і пакурчылася. Тая гордая Дзічка, якая калісь сьмяялася з таго, што на Садоўцы абразалі ваўчкі і п'яўкі, цяпер дажылася да таго, што страціла ўсё сваё зяленіва і на палавіну высахла.

Летам гальлё Садоўкі гнулася ад сочных грушаў і садоўнік падпіраў акуратна кожную галінку, каб не адламалася пад сочным цяжарам. З шчасьліваю усьмешкаю на абліччы садоўнік доўга прастойваў ля Садоўкі і любаваўся яе прыго-

жымі пладамі. Тады Садоўка, быццам маладая маці з любым дзецям на руках, пакорна схіляла свае сільныя галінкі. Затое пустыя і сухія галіны Дзічкі тырчэлі высока, аж пакуль іх ня высушыў і не паламаў вецер. Тыя-ж галінкі Дзічкі, што ўцалелі вызбыліся крыху гордасьці, на наступны год спладзілі некалькі невялікіх кісьлянак-дзічак. Ад таго часу Дзічка больш не дакарала Садоўцы.

**Анатоль Жменя.**

## ІМКНЕНЬНЕ.

Там, дзе наш беларус арэ землю плугам, —
Шпак за ім чарвякі падбірае;
Дзе расьце ля мяжы васілёк між аўсом,
Дзе вясной салавейка сьпявае...
Дзе за Нёмнам адзін хутарочак ляжыць,
Дзе стаіць мая хатка крывая,
Дзе матуля мая у ваконца глядзіць,
Дзе мой татка свой век дажывае —
Там старонка, якую завуць Беларусь,
Там дзядулька наш шчыра кахае.
Вось туды я ўсім сэрцам і думкамі ймкнусь:
Там зямелькая мая залатая!

**Я. Невук.**

## ЦЬМЯНЫЯ ПЛЯМЫ.

Увага: Гэты верш У. Дудзіцкага быў надрукаваны ў Нр. 9-10 (24-25) нашага часапісу, але з прычыны недагляду карэкты некаторыя радкі там так пераблытаны, што верш быў страціў шмат на сваёй вартасьці, таму перадрукоўваем яго нанава так, як мае быць.

**Рэдакцыя.**

Якое сьвету хараство!
На харастве — цьмяныя плямы.
Чыя-ж рука цудоўны Створ
Пад сонцам мурзае вуглямі?

Якія контуры на тле
Сьвятла выростаюць і рысы?
Яшчэ ня ўмёр, яшчэ ня стлеў
Зарою высыпаны прысак...

Жыве ён... Курчыцца апад
Красы ля брам ліхіх суцьмежжа.
Хто-ж гэта зноў, мой родны брат,
Сады упокат хціва рэжа?

Чые-ж віднеюцца. яшчэ
І гнуцца гэтак сілуэты?
Ці не касу сваю Кашчэй
Над галавой заносіць сьвету.

І краем правага пляча
Сьпірае збоі хмар гарбатых?
А мо' гатуе стравы чар
Сваіх магутная Гэката?

Ліняе сьвету хараство, —
Мяняе колеры і блікі...
Глядзіць вачыма зораў Створ
На вобраз Януса двулікі...

**Уладзімер Дудзіцкі.**

# НА РЭЛІГІЙНАЙ НІВЕ

## УГОДКІ КАРАНАЦЫІ СЬВЯЦЕЙШАГА АЙЦА.

Сёлета дня 2-га сакавіка споўнілася 74 гады Сьвяцейшаму Айцу Пію XII, а 12 сакавіка адзінаццаць год ад дня каранацыі. Гэтыя ўгодкі ў шматлікіх мяйсцох вернікі азначылі адпаведнымі ўрачыстасьцямі і багаслужэньнямі.

## СЬВЯЦЕЙШЫ АЙЦЕЦ ЗАКЛІКАЕ ВЕРНІКАЎ ДА МАЛІТВЫ.

З нагоды адзінаццатых угодкаў свае каранацыі Сьвяцейшы Айцец Пій XII выдаў энцыкліку, ў якой падчырквае сучаснае цяжкае палажэньне ў сьвеце. Між іншым Ён кажа: «Што Мне выдаецца найбольш цяжкім, дык гэта тое, што цяпер часта праўду падменьваюць хлусьнёю, якую выкарыстоўваюць для нягоднае барацьбы...»

«Так услаўляюць прыватны і грамадзкі атэізм, быццам Бог і Ягонае права ўжо ня існуе і звычаі ўжо ня маюць ніякае асновы. Прэса вельмі часта зьневажае рэлігійныя пачуцьці, расьпісваючыся аб розных бессаромных плюгаўствах, падбадзёрвае разбэшчанасьць у дзяцей і юнакоў, гэткім чынам яна прычыняецца да неаблічальных наступстваў...

Манлівымі абяцанкамі пабуджае народ да нянавісьці і бунту... і замяшаньняў, якія рыхтуюць эканамічную руіну і спрычыняюцца да беспаваротных шкодаў грамадзкага дабра...»

«Перадусім Мы мусім прызнаць з вялікім жалем, што ў шматлікіх народаў Божае і Царкоўнае права, а нават чыста людзкае, зьняважаны і патоптаны. Духавенства нават з вышэйшае ерархіі павыганята з іхных пасадаў, павывожвана і ўвязьнена, або перашкоджана ў выконваньні сваіх абавязкаў...»

Канец вайны ня прынёс жаданага міру. Нацыі супрацьставяцца адна другой, бо ня маюць узаемнага даверу. Азбраеньне зьбольшваецца, выклікаючы несупакой у людзкіх сэрцах».

Энцыкліка канчаецца заклікам да супольнае малітвы ўсіх вернікаў дня 26-га сакавіка. А да грамадзкіх кіраўнікоў зьвяртаецца Сьвяцейшы Айцец, каб яны ўцямілі, што «няма больш салідпае грамадзкае асновы, як хрысьціянская навука і забясьпечаньне свабоды для духавенства».

### МІЖНАРОДНЫ КАНГРЭС КАТАЛІЦКАЕ ПРЭСЫ У РЫМЕ.

З нагоды Сьвятога Году сёлета ў днёх 16-19 лютага адбыўся Міжнародны Кангрэс Каталіцкае Прэсы ў Рыме. У ім удзельнічалі дэлегаты ад 20 краін. Галоўнаю тэмаю Кангрэсу было: «Каталіцкая прэса на службе справядлівасьці і міру». Гэтая важная тэма, а так-жа і прамова Сьвяцейшага Айца да кангрэсістаў мела жывое водгульле па ўсім сьвеце.

### ВАЖНЫ ДЭКРЭТ КАНГРЭГАЦЫІ СЬВЯТОГА ЎРАДУ.

У канцы лютага г.г. Кангрэгацыя Сьвятога ўраду апублікавала дэкрэт, якім нармуе адносіны Каталіцкае Царквы да экумэнічнага руху. Паводля гэтага дэкрэту:

1. Біскупы павінны вызначыць кваліфікаваных сьвятароў, якія маюць сьлядзіць за дзейнасьцю экумэнічнага руху і ўважаць за публікацыямі, якія абгаворваюць справу паяднаньня ды стварыць інфармацыйную службу для некаталікоў, якія хочуць пазнаць каталіцкую навуку.

2. Гэныя вызначаныя сьвятары мусяць дбаць аб чысьціні навукі.

3. У багаслоўскіх дыспутах могуць удзельнічаць толькі сьвятары ведамыя з свае навукі і вернасьці; сьвецкія асобы так-жа мусяць мець да гэтага адумысны дазвол біскупа.

4. Мешаныя зборкі не павінны займацца справамі веры і маральнасьці, але такімі пытаньнямі, як: абарона прыроднага права, хрысьціянізму, грамадзкага парадку. З нагоды гэткіх зборкаў нельга ладзіць супольных урачыстых багаслужэньняў, дазваляюцца толькі такія супольныя малітвы, як: Ойча наш.

Гэты дэкрэт выклікаў прыхільнае водгульле нават у шматлікіх пратэстанцкіх кругох, аднак не абышлося і бяз крытыкі з боку некаторых сэктаў. Да гэтага часу каталікі агулам ня ўдзельнічалі ў экумэнічным руху, цяпер гэткі ўдзел дазваляецца і дакладна азначаюцца межы гэтага ўдзелу.

### ПРЭЗЫДЭНТ ТРУМАН АБ ЭТЫЦЫ.

Нядаўна на канфэрэнцыі прысьвечанай пашанаваньню права, якая адбылася ў Вашынгтоне, прамаўляў прэзыдэнт ЗША Г. Труман. У гэтай прамове ён між іншым казаў:

«Калі мы ня будзем мець здаровых маральных асноваў, дык нас пераможа таталітарны лад, які ня верыць ні ў якія правы асобы за выняткам права дзяржавы».

«Асноўныя падставы для законаў нашае нацыі даў Майсей на гары Сінай. Гэтыя падставы для нашых правоў узяты з Старога Запавету і ад сьв. Матэя, ад прар. Ісаіі і сьв. Паўла. Я ня думаю, что мы дастаткова падчыркваем гэта ў нашы дні».

«Найважнейшаю справаю нашае і кожнае іншае нацыі ў гэтым ёсьць, узгадаваць і выхаваць дзяцей. Калі дзеці маюць удома добрае ўзгадаваўчае асяродзьдзе, тады мала хто з іх зыходзіць на бездарожжа. Думаю, што мы замала зьвяртаем увагі на неабходнасьць прышчэпліваньня дзіцячай душы маральнага кадэксу».

«Мы мусім вучыць ідэалізму, чэсьці, этыкі і маральнага права...»

Далей Прэзыдэнт заклікаў цэрквы, школы і сем'і накіраваць усе маральныя сілы амэрыканскага народу супраць цяперашняга пашыранага арганізаванага злочыну.

### ПРАЕКТ КАНФІСКАЦЫІ ЦАРКОЎНЫХ ЗЕМЛЯЎ У ПОЛЬШЧЫ.

Прэм'ер польскага камуністычнага ўраду Цыранкевіч зложыў у Сойме дня 6-ІІ праект канфіскацыі земляў, якія належаць да Каталіцкае Царквы ў Польшчы. Паводля гэтага праекту, Царкве пакінецца толькі землі занятыя касьцёламі, пагостамі, плебаніямі, ды ў некаторых парахвіях ад 50 да 100 га. — усе іншыя землі і ў першую чаргу манастырскія маюць перайсьці бясплатна на ўласнасьць дзяржаве. Варта зазначыць, што ў папярэдняй зямельнай рэформе камуністычны ўрад у Польшчы зусім не чапаў зямельнае ўласнасьці Каталіцкае Царквы.

### ПРАСКІ АРХІБ. БЭРАН АДАЗВАЎСЯ.

Інтэрнаваны ў сваім палацы ад 16-га чэрвеня м. г. Праскі каталіцкі архібіскуп Я. Э. Бэран нядаўна пераслаў у парахвіі Прагі ліст, у якім падае інструкцыі, як атрымаць сьвятагоднія адпусты ў Празе. У інструкцыях гаворыцца так-жа аб атрыманьні адпустаў у турмах, дзе рэлігійныя практыкі забаронены.

### ПРОБЫ ЎВЕСЬЦІ РАЗЛАД.

У Чэхасловаччыне на мейсца нядаўна памёршага біскупа ў Банскай Быстрыці Я. Э. Шкрабіка Андрэя камуністычны ўрад назначыў адміністратарам засуспэндаванага сьвятара Дэхэта. У адказ на гэткае бяспраўства каталіцкія ўлады засуспэндаванага сьвятара выклялі Тады камуністычная прэса падняла гомон, што Ватыканскія

ўлады ўмешваюцца ў нутраныя чэхаславацкія справы і перашкаджаюць абсаджваць біскупскія пасады «надзейнымі і даверанымі» людзьмі.

### ПРАВАСЛАЎНЫЯ І СЬВЯТЫ ГОД.

Праваслаўны архімандрыт Партэній на зборцы брацтва сьв. Атаназія ў Александрыі выказаў думку, што праваслаўныя павінны прылучыцца да малітаўнага паходу каталікоў у Сьв. Годзе. Між іншым ён казаў: «Афіцыяльна мы ня ўдзельнічаем у абходах Каталіцкае Царквы, аднак прыватна ў нашых малітвах мы павінны прылучыцца да ўрачыстасьцяў Сьвятога Году, бо імкненьне Каталіцкае Царквы да аб'еднаньня заслугоўвае на гэта і супраць гэтага мы ня маем ніякіх засьцярогаў».

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА

### АНГЛІЯ.

#### «На шляху» друкам.

Пасьля амаль двухгадовага перапынку сёлета зноў пачаў выходзіць часопіс Згуртаваньня Беларусаў у В. Брытаніі «На шляху» і гэтым разам у друкаваным выглядзе.

Для падтрыманьня пэрыядычнага выхаду часопісу зарганізавана Беларускі Выдавецкі Фонд у Англіі.

### АЎСТРАЛІЯ.

#### Аб'еднаньне Беларускіх Лекараў.

У выніку масавае эміграцыі беларусаў з Нямеччыны ў Аўстралію вялікая частка сяброў Аб'еднаньня Беларускіх Лекараў на Чужыне (АБЛЧ) знайшлася ў Аўстраліі. Да гэтага часу ўсе яны працуюць не па прафэсіі. Цяпер дзеля практычнай і духовай самапомачы і для змаганьня разам з лекарамі іншых нацыянальнасьцяў за свае прафэсыянальныя правы і лепшае эканамічнае палажэньне яны арганізуюць адзьдзел АБЛЧ у Аўстраліі.

#### Беларускае Аб'еднаньне у Н. С В.

Сёлета дня 28-га студзеня адбыўся ў Сыднэі арганізацыйны Зьезд беларусаў з усяе Аўстраліі. На зьезьдзе пастаноўлена заснаваць Беларускае Аб'еднаньне ў Н.С.В. і выбрана часовае кіраўніцтва з 7 чалавек для апрацаваньня статуту і легалізацыі.

### ГІШПАНІЯ.

#### Беларуская рэпрэзэнтацыя ў Мадрыдзкім тэатры.

З нагоды сьвята сьв. Тамаша Аквінскага ў тэатры «дэ Эспанья» ў Мадрыдзе адбылася шматтысячная канфэрэнцыя, якую праводзіў сябра Гішпанскае Каралеўскае Акадэміі Ф. Гарсія Санчэс. Падчас канфэрэнцыі на сцэне тэатру прысутнічалі прадстаўнікі мадрыдзкіх навуковых колаў і прадстаўнікі усіх нацыянальнасьцяў прысутных у Калегіі для замежных студэнтаў, а над імі ўзносіліся іхныя нацыянальныя сьцягі, між якімі красаваўся і беларускі бел-чырвона-белы сьцяг. Гэта бадайшто першы раз беларускі сьцяг павяваў на абшары Гішпаніі.

#### Багаслужэньне за Беларусь.

Пачынаючы ад 1-III у Калегіі для замежных студэнтаў правяцца Службы Божыя за народы паняволеныя бальшавікамі, між імі ўспамінаецца і Беларусь. Акрамя гэтага штотыдня кожнае серады правіцца асобная Служба Божая за Беларусь.

### ДАНІЯ.

#### Рэпатрыяцыйная Камісія ў лягэры.

Савецкая Рэпатрыяцыйная Камісія ў складзе двох чалавек і данскіх паліцыянтаў дня 3-га сакавіка адведаля лягэр для перамешчаных асобаў у Тістэд у Даніі і старалася рознымі спосабамі намовіць насельнікаў лягэру ехаць у Савецкі Саюз. Для паказу «шчасьлівага» савецкага жыцьця быў высьветлены фільм ў лягэры, але аглядалі яго толькі 9 чалавек: 3 палякаў, 2 летувісаў, 2 камэнданты лягэру і 2 данскія паліцыянты. Аглядаючы лягэр, савецкія камісары ўбачылі ў пакоях беларусаў беларускі нацыянальны сьцяг і Пагоню пазіралі іна іх неласкавым зорам, але ні словам ня выказалі сваіх заўвагаў.

### З. Ш. А.

#### Беларуская неспадзеванка ў радыё.

Праз радыёстанцыю ў Чыкаго дня 5-га лютага прэз. інж. М. Абрамчык зьвярнуўся да беларусаў у Амэрыцы з прамоваю, у якой коротка пераказаў змаганьне беларускага народу на бацькаўшчыне за незалежнасьць і аб тых галоўных перашкодах, якія спатыкаюцца на гэтым шляху асабліва з боку бальшавіцкіх уладаў. Уканцы зьвярнуўся да беларускае эміграцыі ў Амэрыцы з гарачым заклікам да супрацоўніцтва з праўдзівы-

мі прадстаўнікамі беларускага народу для вызваленьня Беларусі.

Гэтая прамова сваім патрыятычным зьместам і крытыкаю бальшавіцкае тыраніі была сапраўднаю бомбаю ў тым асяродзьдзі, якое да гэтага часу знайходзілася пад уплывам бальшавіцкае прапаганды і мела шырокае водгульле ў беларускіх эміграцыйных кругох ЗША, а так-жа і ў варожай прэсе.

**Вартасны тэстамэнт на карысьць Беларусі.**

Амэрыканскі мільянэр Розэнфэльд із Санта Роза ў сваім перадсьмяротным тэстамэнце запісаў усе свае грошы на дзіцячы шпіталь у Беларусі. Амэрыканскі суд пераказаў тымчасам гэтыя грошы на перахаваньне Каліфорнійскаму Штату, бо сучасная савецкая «беларуская» ўлада ня мае свайго канзуляту ў Амэрыцы.

Гэтая вестка ёсьць пацяшаючым доказам, што сьвет пачынае ня толькі цікавіцца доляю Беларусі, але адначасна выяўляе дзейнае жаданьне прыйсьці з помачу.

## ІТАЛІЯ.

**Новая навуковая сіла.**

У сьнежні мінулага году ведамы беларускі каталіцкі сьвятар а. П. Татарыновіч памысна скончыў вышэйшыя студыі ў Папскім Усходнім Інстытуце і абараніў дакторскую працу на тэму: «Сьвяты Кірыл біскуп Тураўскі і яго духоўнае навучаньне». Жадаем а. др. П. Татарыновічу посьпехаў у будучай працы.

## КІТАЙ.

**Сумная доля беларускіх сьвятароў.**

Толькі нядаўна дайшла сумная вестка з Кітаю, што беларускія айцы марыяне: А. Цікота, Я. Гэрмановіч і Т. Падзява, якія доўгі час працавалі ў Харбіне, арыштаваныя кітайскімі камуністычнымі ўладамі ўканцы 1948 г. Лёс іх няведамы; ня выключана, што некаторыя з іх ўжо мучанікі.

## НЯМЕЧЧЫНА.

**Дзейнасьць «Харытасу».**

Каталіцкі Беларускі Камітэт Харытасу ў лягэры Ватэнштэт за 1949 г. дапамог 24 асобам выэміграваць у ЗША (8 каталікоў ў 16 праваслаўных) і падрыхтаваў дакуманты для далейшых 19 асобаў (2 католікоў і 11 праваслаўных). Лік гэты невялікі, аднак калі ўсьведаміць сабе, што ў цэнтралі каталіцкай эміграцыйнай службы няма беларуса, дык і так зроблена нямала.

**Марскія скаўты.**

У лягэры Ватэнштэт заснавалася першая ў гісторыі беларускага скаўтынгу дружына марскіх скаўтаў. Дружына мае сваю сьвятліцу і выдае часопіс «Нашыя ветразі».

**Чацьвёртая Канфэрэнцыя ЗБСЧ.**

У лягэры Розэнгайм дня 19-га лютага г.г. адбылася чацьвёртая Канфэрэнцыя Згуртаваньня Беларускіх Скаўтаў на Чужыне, у якой удзельнічалі прадстаўнікі беларускіх скаўтаў з Ангельскае і Амэрыканскае зонаў Нямеччыны

Пасьля ўрачыстае Службы Божае, якую з гэтае нагоды адправіў яп. Васілій, удзельнікі прыступілі да парадку дня. Выслухаўшы справаздачу галоўнага кіраўніка ЗБСЧ, замест выбараў новага кіраўніцтва даручана дагэтуляшняй управе прадаўжаць працу да наступнае Канфэрэнцыі, у якой маюць удзельнічаць прадстаўнікі ЗБСЧ з іншых краінаў.

Падзел скаўтынгу, які вытварыўся ў выніку падзелу ўсяе беларускае эміграцыі прызнана за шкоднае зьявішча і, не зважаючы на вялікія цяжкасьці, прызнана патрэбным навязаць і ўтрымоўваць брацкі кантакт з усемі скаўцкімі групамі.

Для каардынацыі скаўцкае дзейнасьці назначана прадстаўнікоў ЗБСЧ у розных краінах.

Зацьверджана плян дзейнасьці на 1950 г., апрацаваны Галоўным Кіраўніцтвам ЗБСЧ.

У справе архіваў тых скаўцкіх адзінак, якія ліквідуюцца ў Нямеччыне ў выніку эміграцыі, пастаноўлена перасылаць іх ў Скаўцкі Архіў у Лёндан на рукі а. др. Ч. Сіповіча.

Пастаноўлена выдаваць скаўцкі часопіс і неабходную скаўцкую літаратуру.

Чарговая 4-я Канфэрэнцыя ЗБСЧ становіць паважны крок у далейшым разьвіцьці беларускага скаўтынгу на эміграцыі.

**Аб'еднаньне Беларускіх Лекараў на Чужыне.**

Аб'еднаньне Беларускіх Лекараў на Чужыне сёлета ўвайходзіць у чацьвёрты год свайго існаваньня і дзейнасьці Арганізацыя была заложана 30-III-1947 г. на зьезьдзе беларускіх лекараў у Марбургу. Год мінулы, як і йдучы, — пераламовыя гады ў жыцьці АБЛЧ. У гэтыя гады АБЛЧ ў выніку эміграцыі сяброў з Эўропы стае арганізацыяй сусьветнага абсягу. Сёньня сябры АБЛЧ раскінуты па шматлікіх краінах трох кантынэнтаў сьвету. Гэткае расьцярушэньне, хоць і абцяжвае арганізацыйную працу і ў шмат чым мяняе ейны характар, аднак яе не перарывае, як гэта сьцьвердзіла практыка ў мінулым годзе.

АБЛЧ сёньня абыймае, бяз мала, усіх бела-

рускіх лекараў, дэнтыстых і фармацэўтаў на эміграцыі. Колькасьць сяброў збольшваецца ў меру росту абсальвэнтаў вышэйшых школаў Эўропы.

Эканамічнае палажэньне беларускіх лекараў у краінах эміграцыі вельмі цяжкае, бо да гэтага часу ніводзін з эміграваўшых дагэтуль лекараў не атрымаў ані правоў, ані магчымасьці працы паводля свае прафэсіі.

АБЛЧ выдае свой непэрыядычны навуковы часапіс «Мэдычную Думку». Сувязь з сябрамі ўтрымоўваецца галоўна карэспандэнцыйна і сталаю рассылкаю інфармацыйных абежнікаў. Аб'еднаньне ўтрымлівае сталы кантакт з іншанацыянальнымі лекарскімі арганізацыямі.

Беларускія лекары, як і ўся новая беларуская эміграцыя працуюць прафэсыйна і грамадзка з вераю аб нямінучым і хуткім павароце на сваю вольную Бацькаўшчыну.

## ФРАНЦЫЯ.

### Гадавы Сход Парыскага Адзьдзелу АБРФ.

У салі Хрысьціянскага Сындыкату ў Парыжу дня 12-II адбыўся гадавы сход Парыскага Адзьдзелу Аб'еднаньня Беларускіх Работнікаў у Францыі. Пасьля справаздачы старшыні ўправы і Рэвізыйнае Камісіі разгарнулася шырокая дыскусыя, у выніку якое намечана вытычныя для пляну працы на бягучы год і ўдзелена абсалюторыю ўступаючай управе. Пасьля гэтага выбрана новую ўправу, у склад якое ўвайшлі: Старшыня — А. Яцэвіч, сакратар — В Кавалеўская, скарбнік — В. Міцкевіч. Выбрана так-жа Рэвізыйную Камісію і Сяброўскі Суд.

У вольных прапановах парушана цэлы рад бягучых спраў з жыцьця Сындыкату і агульнаграмадзкага характару.

### Агульны Зьезд БНАМ.

Беларуская незалежная Арганізацыя Моладзі ў Францыі склікае другі агульны Зьезд на нядзелю 30-га красавіка. Зьезд адбудзецца ў салі Хрысьціянскага Сындыкату а гадз. 15.

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД.

Сёлета прыслалі на Выдавецкі Фонд «Божым шляхам» і Фонд Добрае Кніжкі: Абрамчык М. 500 фр., Бакуновіч М. 200 фр., Будзька Л. 920 фр., Будзька Ч. 1,840 фр., Высоцкі Я. 1,000 фр., Каштэлян У. 280 фр., Міцкевіч В. 500 фр., Рамаsuccessfulўскі Я. 500 фр., Раманчук А. 1,000 фр. Санковіч Н. 400 фр., Скурат Я. 300 фр., Смайкевіч 920 фр., Шастак М. 644 фр., Янкін Я. 350 фр., Яцкевіч Г. 500 фр.

## ПОШУКІ.

**Карусёў** Іпаліт з гор. Мсьціслаў шукае сваіх родных і знаёмых.

**Лапіна** Алеся з Барысава, які ўвосень 1848 г. выехаў у Канаду, шукае Пячэрскі А. Пісаць на адрас:

**Mr. Karusew I., N. Z. R. Craceifild, Lower Hutt, New-Zeeland.**

## ЗАЛАТЫЯ ДУМКІ З БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ ТВОРЧАСЬЦІ.

Узяўся за гуж, — не кажы, што ня дуж.
У іншым няшчасьці шчасьце схавана.
У каровы язык доўгі, а гаварыць заказана.
У людзей пытай, ды свой розум май.
Упартая каза — воўку карысьць.
У простых сэрцах Бог спачывае.
Упрасіліся злыдні на тры дні, а ў год ня выжывеш.
У прочкі зьбірайся, а жыта сей.
У родзе не бяз вырадка.
Усе ласы на чужыя прыпасы
Усе птушкі крыльлі маюць, ды ня ўсе лятаюць.
У сьвеце дурні не пазводзіліся.
Усякі горне не ад сябе, а да сябе.
У ціхім балоце чэрці вядуцца.
У чужой старане сокала завуць воронаю.
У чужым баку вочы па кулаку.

## ВЯЛІКАЯ СТРАТА.

Выдатны красамоўца Аўрам з Сьв. Клары клікаў аднойчы на казаньні: «Згублена найбольшы скарб сьвету: шчырасьць і вернасць. Хто яго знойдзе, хай прынясе ў захрыстыю».

Да гэтага часу страта ня знойдзена.

## ЗЬМЕСТ.


| | |
|---|---|
| а. Леў — У шэрыя будні | 1 |
| а. Лазар — Сучасная бязбожнасьць | 2 |
| В. Друя — Ты і Яна (працяг 10-ы) | 4 |
| Манах А. — Нячысьцік | 6 |
| а. Л. Гарошка — Мошчы сьв. Еўфрасіні | 8 |
| А. Жменя — На розным полі розная доля | 10 |
| Я. Невук — Імкненьне (верш) | 12 |
| У. Дудзіцкі — Цьмяныя плямы (верш) | 12 |
| На рэлігійнай ніве | 12 |
| Беларуская хроніка | 14 |
| Залатыя думкі | 16 |



Gérant: D. Kucopej. Directeur: Abbé L. Horosco.

Impr. de Navarre, 11, rue des Cordelières, Paris.